# БАЦЬКАЎШЧЫНА

WHITERUTHENIAN WEEKLY „THE FATHERLAND“ — Цана 30 н. фэн.

№ 31 (34) — 10 КАСТРЫЧНІКА 1948 Г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 2


## НА ПАРАДКУ ДНЯ - БЭРЛІН

### ВЫШЫНСКІ ЦЬВЕРДЗІЦЬ, ШТО НЯМА БЛЯКАДЫ БЭРЛІНА

У сувязі з пастановай трох заходніх гаспадарстваў перадаць справу Бэрліна на разгляд Рады Бясьпечнасьці, Савецкі Саюз 3 кастрычніка зьвярнуўся з нотай да ўрадаў ЗША, Вялікабрытаніі й Францыі з прапановаю склікаць раду чатырох міністраў замежных справаў дзеля разьвязаньня Бэрлінскага пытаньня разам з пытаньнямі Нямеччыны наагул. У Савецкай ноце ўся адказнасьць за палажэньне ў Бэрліне складаецца на заходнія гаспадарствы, якія правялі, незалежна ад саветаў, грашовую рэформу ў заходняй Нямеччыне і ў заходніх сэктарах Бэрліна. Савецкі Саюз уважае, што Бэрлінскі канфлікт не загражае міру і дзеля гэтага — паводля Саветаў — не павінна яго разглядаць Рада Бясьпечнасьці.

Заходнія гаспадарствы выразілі сваю згоду на разгляд Бэрлінскага пытаньня радай чатырох міністраў замежных справаў пад умовай, што безадкладна будзе спыненая савецкая блякада Бэрліна.

Як і трэба было спадзявацца, на выкананьне гэтай умовы Саветы не згадзіліся, а дзеля гэтага 4 кастрычніка пачалося паседжаньне Рады Бясьпечнасьці пытаньнем Бэрлінскага канфлікту. Спачатку паўстала пытаньне, ці Рада Бясьпечнасьці зьяўляецца кампэтэнтнай разглядаць гэтае пытаньне, ці не. Старшыня савецкай дэлэгацыі Вышынскі ў сваей крыклівай мове, падчас якой часта стукаў кулаком у стол, цьвердзіў, што згодна пастановаў Ялтанскай і Падсдамскай канфэрэнцыяў разьвязаньне такіх пытаньняў, як пытаньне Бэрліна, належыць выключна да кампэтэнцыі акупацыйных уладаў чатырох гаспадарстваў, а не да Рады Бясьпечнасьці. Ён з асаблівымі яму аратарскімі прыёмамі і цынізмам некалькі разоў заяўляў, што няма ніякай блякады Бэрліна і што жальбы на недастатак і голад Бэрлінскага насельніцтва зьяўляюцца толькі прагандавым сродкам англа-амэрыканцаў. А дзеля гэтага — цьвердзіў Вышынскі—пытаньне Бэрліна не зьяўляецца ніякай загрозай міру.

У вадказ Вышынскаму выступіў спакойна, але station ноўка дэлэгат ЗША Джэзэп, які сьцвердзіў, што разьвязаньнем Бэрлінскага пытаньня павінна заняцца толькі Рада Бясьпечнасьці, бо яно ўзапраўды загражае міру. Яго падтрымаў і ангельскі дэлегат Кэдогэн.

5 кастрычніка была пастаўленая справа на галасаваньне. За тое, каб Бэрлінскае пытаньне разглядаць на Радзе Бясьпечнасьці, высказалася 9 дэлегатаў, супраць — 2 (Вышынскі і дэлегат Савецкай Украіны Мануільскі). Пасьля гэтага Вышынскі, пры падтрыманьні Мануільскага, заявіў, што ён ня будзе браць удзелу ў дыскусіі над Бэрлінскім пытаньнем .

Паседжаньне Рады Бясьпечнасьці 6 кастрычніка пачалося заявай амэрыканскага дэлегата Джэзэпа. Ён заявіў, што ЗША, Вялікабрытанія й Францыя таму прадставілі пытаньне Бэрлінскага канфлікту на разгляд Рады Бясьпечнасьці, бо яно, дзякуючы Савецкай блякадзе, зьяўляецца згодна параграфу 7 хартыі ЗН загрожаньнем міру. Амэрыканскі дэлегат запэўніў, што заходнія гаспадарствы вычарпалі ўсе магчымасьці, каб Бэрлінскае пытаньне разьвязаць прыязным спосабам. Правы ЗША ў Бэрліне зьяўляюцца тыя самыя, што й Савецкага Саюзу. Бэрлін не зьяўляецца часткаю савецкай акупацыйнай зоны, але ёсьць інтарнацыянальнай тэрыторыяй. Напасьледак ён зрабіў пэрагляд усіх Савецкіх мерапрыемстваў, што прывялі да блякады.

Рада Бясьпечнасьці перарвала 6 кастрычніка разгляд Бэрлінскага пытаньня, не ўстанаўляючы дакладнага тэрміну яго наступнага ўзнаўленьня. Гэтым самым быў дадзены Савецкаму Саюзу час абмеркаваць праект заходніх гаспадарстваў аб спыненьні блякады Бэрліна. На перадабедзенным паседжаньні амэрыканскі дэлегат Джэзэп заявіў, што Амэрыка ніколі не перадасьць Бэрліна Савэтам. Адначасна падчаркнуў ён яшчэ раз згоду свайго ураду у любы мамэнт прыняць удзел у перамовах чатырох міністраў замежных справаў пра ўсю нямецкую праблему ў тым выпадку, калі блякада Бэрліна будзе спыненая.

Урадавыя парыскія колы прыпушчаюць, што ўзнаўленьня разгляду Бэрлінскага пытаньня трэба чакаць ў пачатку наступнага тыдня.

Уся маскоўская прэса зьвяртае ўвагу на тое, што Савецкі Саюз заўсёды мае магчымасьць у справе Бэрлінскага пытаньня ў Рады Бясьпечнасьці скарыстаць із прыслугоўваючага яму права вэта.

### ШТРАЙК ФРАНЦУСКІХ ВУГЛЯКОПАЎ

Заплянаваны й прыгатаваны францускімі камуністымі яшчэ раней генэральны штрайк усіх шахцёраў у Францыі пачаўся 4 кастрычніка й спыніў усю вугальную прадукцыю. Работнікі, што належаць да Хрысьціянскага Сындыкату францускіх работнікаў таксама 3 кастрычніка абвесьцілі штрайк, які мае трываць толькі 48 гадзінаў. Дзякуючы гэтаму штрайку, Францыя трацІць у дзень 145.000 тон нявыдабытага вугля.

У францускіх урадавых колах пануе перакананьне як паведамляе адзін карэспандэнт Рэйтэра што гэты штрайк выкліканы камінформам, каб працу кабінэту Кэя зрабіць немагчымай і змусіць увесьці ў склад ураду камуністых.

Апошнімі днямі таксама застрайкавалі ў паўночнай Францыі чыгуначнікі й работнікі газавых, электрычных і вадаправодных прадпрыемстваў, дзякуючы чаму нутранае палажэньне Францыі значна завастрылася. У той час, калі хрысьціянскія й сацыялістычныя работніцкія арганізацыі прадаўжаюць свае перамовы з урадам, то камуністыя ўсякія перамовы з урадам сарвалі.

### ДЭ ГОЛЬ ШТО РАЗ АКТЫЎНЕЙШЫ

У сувязі з дамаганьнем расьпісаньня новых выбараў у францускі парлямант, дэ Голь заявіў: «Я біру ўсіх вас на сьветкаў, што для адхіленьня катастрофы Францыі няма іншага выхаду, як тое, што я народу перад некалькімі месяцамі абвесьціў». У справе магчымасьці прыходу да ўлады камуністых, дэ Голь сказаў: «У выпадку пераняцьця ўлады камуністымі, я буду пачувацца да абавязку дзеіць навет супраць закону». На іншае пытаньне, дэ Голь адказаў: «Ані пратэсты, ані штрайкі ня могуць паўстрымаць ад выкананьня свайго абавязку тых, што зьяўляюцца паклікаными народам да пераняцьця ўлады».

### ФЛІРТ ЗЬ ГІШПАНІЯЙ ФРАНКО

Старшыня сэнацкай ваеннай камісіі ЗША Джэрнэй 5 кастрычніка сказаў прамову аб амэрыканскіх дастаў ваеннага матарыялу для Заходняй Эўропы з мэтаю павялічэньня ейнае абароназдольнасьці супраць камуністычнай агрэсіі. Ён дамагаўся павялічыць гэтыя даставы да найвышэйшай магчымасьці. Ён таксама выразіў дамаганьне, каб і Гішпанія карысталася з гэтых даставаў, а таксама каб была яна ўцягнутая ў плян адбудовы Эўропы.

У справе сваіх наведзінаў генэрала Франко, сэнатар заявіў, што «Гішпанія зьяўляецца краем, які ёсьць варожа настаўленым супраць камунізму ўжо ад 1936 г.» «Кажны край — заявіў ён — які адкідае камунізм, зьяўляецца нам прыязным».

### ГЕНЭРАЛЬНЫ ШТАБ ЗАХОДНЯЙ ВУНІІ

Заходняя вунія (Ангельшчына, Францыя й гаспадарствы Бэнэлюксу) ў пляне супольнае абароны паклікала свой генэральны штаб, на чале якога стаў ангельскі фэльдмаршал Монтгомэры, які адначасна зьяўляецца галоўнакамандуючым усіх збройных сілаў вуніі. У сувязі з гэтым ён адмовіўся ад дасюлешняга свайго становішча шэфа генэральнага штабу Вялікабрытаніі. Шэфам наземных ваенных сілаў вуніі назначаны францускі генэрал дэ Лятр дэ Тасіні. Галоўнае камандаваньне лётніцкімі сіламі пераняў ангельскі лётніцкі маршал Роб, а ваенным флётам — францускі віцэадмірал Жожэр.

Старшыня сэнацкай камісіі ЗША для справаў лётніцтва Джэрнэй, які нядаўна вярнуўся з Эўропы, на запытаньне, ці ЗША прыступяць да вайны на выпадак, калі Саветы заатакуюць заходнюю Эуропу, адказаў: «Гэта ясна».

Пытаньнем заходняй вуніі зьяўляюцца моцна зацікаўленымі ЗША і Канада. У палітычных колах лічацца з магчымасьцю, што ўжо ў сьнежані заходняя вунія можа быць пашыраная яшчэ на гэтыя два гаспадарствы й тадыператворыцца яна ў Атлянтычную вунію.

### ПАСЬЛЯ ГАМУЛКІ АСУБКА-МАРАЎСКІ

Пасьля выключэньня з польскай партыі камуністычнай сёнага генэральнага сакратара Гамулкі, прыйшла чарга на новага выдатнага прадстаўніка сяньняшняга камуністычнага рэжыму ў Польшчы — на першага прем'эра Варшаўскага ўраду, а цяпершняга міністра публічнае адміністрацыі Асубку-Мараўскага, якога публічна абвінавачваюць за дзейнасьць на карысьць амэрыканскіх інтарэсаў. У сувязі з гэтым Вярхоўная Рада Польскай Партыі Сацыялістычнай у парадку цяперашняй масавай чысткі адклікала Асубку-Мараўскага із складу Цэнтральнага Выканаўчага КамІтэту партыі.

Пасьля сэсіі Польскай Сацыялістычнай Партыі ў Варшаве быў выдадзены камунікат, які прапануе канчальнае зьліцьцё гэтае партыі з камуністымі, правядзеньне чысткі ўнутры партыі, перадусім выключэньне зь яе правых элемэнтаў, адмаўленьне ў прыняцці ў партыю людзей, зьвязаных з прыватнымі гаспадаркамі, мабілізаваньне дробных сялянаў супраць «кулакоў» і прыняцьце марксыстоўска-ленінскай лініі. Гэтым самым праграма Польскай Партыі Сацыялістычнай пакрываецца цяпер амаль поўнасьцю з праграмаю партыі камуністычнай.

**Чытайце, пашырайце й выпісвайце адзіную беларускую газэту на эміграцыі — «БАЦЬКАЎШЧЫНУ!».**

## ІДЭЯ ФЭДЭРАЛІЗМУ

Апошнім часам што раз больш насьпявае ў сьвеце і ў многіх выпадках прыймае канкрэтныя формы ідэя дабравольных сувязяў, вуніяў, блёкаў ці фэдэрацыяў паасобных народаў і гаспадарстваў. Гэтыя гаспадарствы, зьвязаныя супольнымі палітычнымі, мілітарнымі, гаспадарскімі ці іншымі інтарэсамі й творачыя пэўную геаграфічную суцэльнасьць, дабравольна зракаюцца часткі свайго сувэрэнітэту на карысьць агульнай міжгаспадарстваўскай канструкцыі. Пры далейшым захаваньні сваей гаспадарстваўскай незалежнасьці, яны звычайна твораць супольны надпарлямант і іншыя надгаспадарстваўскія органы, заданьнем якіх ёсьць каардынаваньне й кіраваньне нутраным і вонкавым жыцьцём такога міжгаспадарстваўскага арганізму.

Гэтак, прыкладам, у Эўропе сталася ўжо дакананым фактам вунія гаспадарстваў Бэнэлюксу (Бэльгіі, Нідэрляндаў і Люксэмбургу), якая ізноў-жа увайшла, як складовая частка, у склад заходня-эўрапэйскай вуніі, да якой, апрача Бэнэлюксу, належыць Ангельшчына й Францыя. Таксама амаль што існуе блёк скандынаўскіх гаспадарстваў, да якога належаць Швэдыя, Нарвэгія й Данія. Апошнім часам даведваемся, што ўжо адбылася ў Парыжы першая нарада ў справе стварэньня сярэдня-ўсходняга блёку, у які мае ўвайсьці дванаццаць гаспадарстваў блізкага азіяцкага й афрыканскага ўсходу. Далейшым разбудаваньнем фэдэральнай канцэпцыі былі-бы Задзіночаныя Штаты Эўропы. І гэтая канцэпцыя ўваходзіць ужо ў рэальную фазу ажыцьцяўленьня, як сьветчыць аб гэтым нядаўна адбыты кангрэс у Інтэрлякэне (Швайцарыя).

Ідэя фэдэралізму, як бачым, зьяўляецца сяньня жывой і актуальнай. Яе выклікалі й зактуалізавалі неабходныя й палючыя патрэбы сучаснага палітычнага й гаспадарска-эканамічнага жыцьця.

Дзьве апошнія сусьветныя войны, што спрычынілі вялізарныя ахвяры й прынесьлі калясальныя зьнішчэньні матарыяльных дабыткаў і твораных вякамі культурных цэннасьцяў, пераканалі чалавецтва, што калі-б народы й гаспадарствы паасобных частак кантынэнтаў былі павязаныя цеснымі міжгаспадарстваўскімі сувязямі й тварылі магутныя арганізмы, то да гэтых страшных войнаў мо й не дайшло-б або былі-б яны менш крывавымі й адчувальнымі.

З другога боку фэдэральныя ідэі абапіраюцца таксама на гаспадарска-эканамічных патрэбах. Буйнае й складанае разьвіцьцё сяньняшняе экономікі й разам з гэтым павялічэньне гаспадарскіх патрэбаў паасобных народаў стварыла такі стан, што ніводнае ў сьвеце гаспадарства ня можа быць самавыстарчальным з эканамічнага гледзішча й кажнае зь іх патрабуе цеснага гаспадарскага супрацоўніцтва зь іншымі гаспадарствамі й шырокае вымены, як сыравіны, так і прадуктаў вытворчасьці. Гэтая акалічнасьць таксама змушае народы й гаспадарствы шукаць цесных і трывалых узаемных сувязяў, якія стварылі-б адзіны й да пэўнае меры самавыстарчальны гаспадарскі арганізм.

Спаміж гэтых дзьвюх акалічнасьцяў, што выклікаюць патрэбу розных фэдэральных канцэпцыяў, на сяньняшні дзень бясспрэчна галоўную адыгрывае ролю першы мамэнт — ваенна-палітычны. Патрэба абароны перад усьцяж узрастаючымі агрэсыўнымі плянамі Савецкага Саюзу, падтрымліванага сусьветным камунізмам, змушае многія гаспадарствы ня толькі Эўропы, але й іншых частак сьвету, да дабравольнага бляканьня й фэдэраваньня з мэтаю палітычнага й вайсковага супрацоўніцтва. Мамэнт эканамічна-гаспадарскі зьяўляецца тут фактычна дапаўненьнем мамэнту мілітарна-палітычнага, бо без адпаведнай эканамічнай базы й патрэбных рэсурсаў сыравіны немагчымая разбудова ваеннай магутнасьці. Такім чынам усе сяньняшнія фэдэральныя канцэпцыі, як і іхныя ўжо зрэалізаваныя гатовыя формы, зьяўляюцца канцэпцыямі **абароннымі.**

Не пярэчыць гэтай тэзе прыклад Савецкага Саюзу, які, будучы фармальна таксама фэдэральнай сувязьзю цэлага раду «незалежных» і «аўтаномных» рэспублік, зьяўляецца сяньня адзіным у сьвеце носьбітам захопніцтва й імпэрыялізму, пры гэтым імпэрыялізму такой дынамічнай сілы й неабмежанага сусьветнага абсягу, якога ня помніць гісторыя. Савецкі Саюз, як ведама, у запраўднасьці не зьяўляецца ніякім дабравольным саюзам паасобных народаў і гаспадарстваў, а ёсьць найбольш таталітарнай формай камуністычнае дыктатуры й паняволеньня народаў. Ня можа таксама пярэчыць гэтым нашым вывадам і канцэпцыя будучае сфэдэраванае Расеі, прапагаваная сяньня расейскімі салідарыстымі й па-уласаўскім г. зв. «Камітэтам Вызваленьня Народаў Расеі», бо ніводзін нацыянальна й палітычна дасьпелы народ, паняволены сяньня бальшавізмам, яе ня толькі не падтрымлівае, але станоўка выступае супраць яе, як ня зусім навет замаскаванае імпэрыялістычнае расейскае канцэпцыі.

Такім чынам толькі прынцып абароннасьці й імкненьне да загарантаваньня супольнай бясьпечнасьці

